 


# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 51 (1034) ГОД XX 21 СНЕЖНЯ 1975 г. ЦАНА 60 гр.


Прыемнага святочнага адпачынку жадае сваім чытачам і сімпатыкам „Ніва"

## У Панятовічах, дзе палякі гавораць па-беларуску

Іх прозвішча — **Сізінеўскія.** Маці — **Рамуальда,** дачка **Раймунда.**

Жывуць яны ў вёсцы **Панятовічы** на **Сакольшчыне.** Калі з Саколкі ехаць у Кузніцу, дык трэба павярнуць ад шашы направа — і палявой разбітай дарогай дабярэмся ў Панятовічы. Вёска сярэдняй велічыні, 70 з лішнім гаспадароў. **Знаходзіцца яна ў этнічнай зоне, дзе цэлымі стагоддзямі крыжаваліся польска-беларускія культурныя ўплывы,** а мясцовыя жыхары сваю нацыянальнасць атаесамлівалі з веравызнаннем. У Панятовічах жывуць выключна католікі. Дык пані Рамуальда рашуча заяўляе:

**— Мы ўсе тут католікі, палякі, рускіх у нас няма.**

**І гаворыць гэта сакавітай сакольскай гаворкай, якая вельмі блізкая да літаратурнай беларускай мовы.** Толькі яе дачка — Раймунда — у гутарцы са мной карыстаецца мовай польскіх інтэлігентаў. Звяртаючыся, аднак, да маці, яна адразу пераходзіць на мясцовую беларускую гаворку. Атрымліваецца, такім чынам, у нас поўная моўная мешаніна.

Раймунда яшчэ маладая. Два гады таму назад закончыла Сельскагаспадарчы тэхнікум у беластоцкіх Дайлідах і... вярнулася на бацькоўскую гаспадарку. Сама цяпер водзіць трактар, сама сее і арэ. А пры ўсім гэтым знаходзіць яшчэ час і на грамадскую дзейнасць.

Мы разгаварыліся. Я ўвесь час карыстаўся беларускай мовай. Дык і Раймунда перайшла на сваю родную мясцовую гаворку.

— Чаму вярнулася ў вёску? Бо шкада было гаспадаркі. Без мяне яна зусім заняпала б, бо я адна ў бацькоў. Ці не шкадую столькіх гадоў, прысвечаных навуцы? Не, не шкадую. Навука цяпер патрэбная гаспадару, а я люблю гаспадарку і люблю вёску. Мне прыемна працаваць на сваім і для сябе...

Тут уключылася маці:

— З суседзямі па полі заснавалі мы цяпер сельскагаспадарчую суполку, разам купілі поўны камплект сельскагаспадарчых машын — уключна з трактарам...

— Паглядзіце, — дачка паказвае прыгожы вялікі крыштальны кубак. — Гэта ад ваяводы за першае месца ў конкурсе **„Малады майстар ураджаю“.** А яшчэ атрымала я тады **тры тысячы злотых узнагароды ў** Беластоку і **чатыры тысячы злотых** у Варшаве, у час агульнадзяржаўнага падсумавання вынікаў гэтага конкурсу. А пасля запрасілі мяне на цікавую і павучальную **экскурсію ў Галандыю.**

Калі мы ўжо супольна абмеркавалі найважнейшыя справы гаспадарчага характару, дык ізноў вярнуліся да грамадскіх праблем вёскі Панятовічы і ўсяго гэтага наваколля.

— З моваю ў нас сапраўды нейкая дзіўная блытаніна, — гаворыць маці. — Між сабою мы заўсёды гаворым **„папростаму“...**

**(Працяг на стар. 4)**



*Лясныя нетры.*

*Фота В. Казлова.*




## БЕЛОВЕЖСКАЯ БАЛЛАДА

*Я беру тебя на поруки*
*перед силами жизни и зла,*
*перед алчущим оком разлуки,*
*что уставилась из угла.*
*Я беру тебя на поруки*
*от суда городской тщеты.*
*Ты — как роща после порубки,*
*ты мне крикнула: защити!*
*Отвернутся друзья и подруги.*
*Чтобы вспыхнуло все голубым,*
*беловежскою рюмкой сивухи*
*головешки в печи угостим.*
*Затопите печаль в моем доме!*
*Поет прошлое в кирпичах.*
*Все гори синим пламенем кроме —*
*запалите печаль!*
*В этих пылких поспешных поленьях,*
*в слове, вырвавшемся хрипя, —*
*ощущение ослепленья,*
*как сказали бы раньше — греха.*
*Воли мне не хватало, воли.*
*В сумасшедшую гололедь*
*столько прошлых дров накололи —*
*хорошо им в печали гореть!*
*Это пахнет уже не романом,*
*так бывает пожар и дождь —*
*на ночь смывши глаза и румяна,*
*побледневшая подойдешь.*
*А в квартире, забытой тобою,*
*к прежней жизни твоей подключен,*
*белым черепом со змеею*
*будет тщетно шуршать телефон...*
*В этой егерской баньке бревенчатой,*
*точно сельские алтари,*
*мы такою свободой повенчаны.*
*У тебя есть цыгане в крови.*
*Я беру тебя на поруки*
*перед городом и людьми.*
*Перед ангелом воли и муки*
*ты меня на поруки возьми.*

**Андрей Вознесенский**

## У чалавека лесу

Калі адбывалася наша размова з старшым ляснічым у Валілах інжынерам **Мечыславам Варэйкам,** лясныя сцежкі ўсцілаў залаты асенні лісць, і гэта настройвала да ўспамінаў і разважанняў.

М. Варэйка паходзіць з патомных ляснічых. Як перадае сямейная традыцыя, яшчэ яго прадзед, служачы аб'ездчыкам, вадзіў паўстанчаскія атрады па сувальскіх лясах у 1863 годзе, а васьмюдзесяццю гадамі пазней бацька быў пастаянным сувязным, правадніком і пастаўшчыком зброі і харчоў атрадам польскіх і савецкіх партызанаў, што дзейнічалі ў тых жа ваколіцах. Жыццё сям'і ўсцяж вісела на валаску: бацьку арыштоўвалі, катавалі, пагражалі расстрэлам. Не менш даставалася і Мечыславу: працаваў ён на прымусовых работах у г.зв. амуніцыёнлагеры, дзе яму даводзілася збіраць і звозіць неразарваўшыеся ды пагубленыя ў часе фронту снарады і даводзіць іх да баявой прыдатнасці. Яшчэ і сёння яму памятны на целе пякучыя палосы ад нагайкі фашыста-наглядчыка.



— Але нішто не здолела заглушыць маю ўлюбёнасць у красу лесу, — гаворыць М. Варэйка. — Бывала, пайду з лесніччоўкі куды-небудзь у глыб лясной гушчэчы, прысяду на пні, і здаецца мне, што дрэвы разумеюць мае думкі, пахваляюць або асуджаюць мае паступкі, пільна сочаць за кожным маім крокам. Адразу пасля вызвалення я накіраваўся ў Лясны тэхнікум у Звяжынцы каля Замосця. Часы былі трывожныя, крывавыя. Як сёння памятаю, аднойчы майскай ноччу 1947 г. непадалёк ад нашай школы выбухла страляніна, затым пачуліся разрывы гранатаў. Гэта банда знянячэўку напала на мясцовы пост ОРМО. Загінула 12 армоўцаў. Раніцай і мне даводзілася выносіць з пажарышча іх апаленыя целы. Відаць было, што некаторыя з іх згарэлі жыўцом...

Пасля тэхнікума М. Варэйка быў прызваны на ваенную службу. Яму пашчаслівілася трапіць у ваенна-марскі флот. Спраўляўся належна: атрымаў адзнаку ўзорнага воіна, дыпломы, а бацькі — спецыяльны ліст з падзякай ад камандавання за пры-

**(Працяг на стар. 4)**

## Праз тыдзень у „Ніве"



 

ШТО НОВАГА?

# ПА ЗАКОНУ БЕЗЗАКОННАСЦІ

У адным з нядаўніх нумараў паўднёваафрыканскага часопіса „Ту зе пойнт" быў змешчаны фотарэпартаж аб буйнейшай у ПАР станцыі пералівання крыві паблізу Прэторыі.

На бліскучых стэлажах роўнымі шарэнгамі стаяць ёмістасці. На кожнай з іх акуратная шыльдачка з падрабязнымі характарыстыкамі. Але і гэта не ўсё. У правым верхнім вуглу ярка выведзены лацінскія літары: „A", „B", „C", „W". Яны азначаюць, што ў ПАР кроў чалавека залежыць не толькі ад групы, але і ад колеру скуры яе ўладальніка. Напрыклад, у прабірцы, абазначанай літарай „A", знаходзіцца кроў чалавека азіяцкага паходжання, „B" — „банту" (банту — карэннае афрыканскае насельніцтва ПАР), „C" — метыса (асобы змешанага паходжання), „W" — белага.

Навошта ж спатрэбілася такая класіфікацыя? Хіба, спытаеце вы, удалося даказаць, што якасць крыві і яе прыгоднасць для пералівання вызначаюцца колерам скуры яе ўладальніка? Вядома, не. Але ж факты — не аргумент для расістаў. Згодна з расісцкімі догмамі, кроў белага чалавека, а значыцца — прадстаўніка пануючай расы, падлягае змешванню толькі з крывёю да яго падобнага. Гэта правіла дзейнічае як пры афармленні шлюбу, так і пры пераліванні крыві. Такі парадак прыводзіць да маральных траўм (у першым выпадку) і нярэдка да смерці (асабліва ў другім выпадку). У паўднёваафрыканскім друку з'яўляюцца паведамленні аб тым, што белы чалавек, які хварэе або трапіў у аварыю, гіне з-за адсутнасці „белай крыві". У сваю чаргу яго кроў ніколі не пераліваецца „чорным", „жоўтым", „каляровым".

Расізм, падобна да ракавай пухліны, глыбока пранік ва ўсе поры паўднёваафрыканскай рэчаіснасці. Не з'яўляецца выключэннем у гэтых адносінах і медыцына, самая гуманная сфера дзейнасці чалавека. Найбольш дыскрымінуемай часткай паўднёваафрыканскага насельніцтва ў медыцыне, як, дарэчы, і ўсюды, з'яўляюцца людзі з чорным колерам скуры.

Дастаткова ўспомніць, што на долю афрыканцаў, якія складаюць больш чым 70 працэнтаў насельніцтва ПАР, прыпадае менш як 20 працэнтаў фонду заработнай платы. Іх гадавыя даходы складаюць крыху больш як 100 долараў на душу насельніцтва. Жабрацкі жыццёвы ўзровень і цяжкая знясільваючая праца прыводзяць да таго, што 90 працэнтаў цяжка хворых у краіне — усё тыя ж афрыканцы. Нават згодна з афіцыйнымі статыстычнымі данымі, у 1970 годзе ад туберкулёзу памерла 55 тысяч афрыканцаў і 825 белых, з 757 хворых на праказу афрыканцаў было 750, а з 4329 зарэгістраваных выпадкаў захворвання на тыф 4000 прыпадалі на долю афрыканцаў.

Афіцыйна пацверджан і той факт, што з 1946 па 1971 год у ПАР было падрыхтавана ўсяго 252 афрыканскія ўрачы, а, як вядома, толькі яны могуць лячыць афрыканскае насельніцтва. У выніку, згодна з данымі Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, у ПАР на аднаго ўрача прыпадала ў 1974 годзе 400 белых, 900 асоб азіяцкага паходжання, 6.200 метысаў і... 44.000 афрыканцаў.

Аб узроўні медыцынскага абслугоўвання і гаварыць не прыходзіцца. Усё самае лепшае ў сучаснай медыцыне накіроўваецца ў „белыя бальніцы". „Чорным", „каляровым", „жоўтым" застаецца ўсё больш простае, больш таннае. Такі закон апартэіду. **Б. Фамічоў**



КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

# На песню адгукаюцца сэрцы

Ігар Лучанок свой аўтар для шырокіх мас слухачоў. Ён свой, таму што ўсхвалявана гаворыць з імі аб тым самым хвалюючым, без якога музыка не становіцца нашай сучасніцай. Ён свой, таму што гаворыць проста, без усялякай мудрагелістасці, без жадання здзіўляць людзей. Ён свой, таму што ў яго музыцы, побач з ярка акрэсленай думкай заўсёды прысутнічае ясная, магутная нацыянальная „нота", таму што ён гаворыць музыкальнай мовай свайго народу.

Яшчэ адна характэрная рыса, уласцівая Ігару Лучанку. Яго музыка аднолькава адпавядае мастацкаму попыту як аматараў мастацтва, так і мудрых знатакоў-прафесіяналаў. Калонны зал Дома саюзаў у Маскве ці маладзёжны клуб у Мюнхене, песенны фестываль у Балгарыі ці сустрэча з рабочымі Англіі, афіцыйны ўрадавы прыём на Кубе, Міжнародны фестываль грамзапісу ў Францыі — усюды, дзе бывае Ігар Лучанок і яго песні, свецяцца сяброўскія ўсмешкі, гучаць радасныя воклічы.

Аб папулярнасці творчасці Ігара Лучанка многае гаворыць і наступны факт: сярод яго выканаўцаў такія шырока вядомыя ў краіне і за рубяжом калектывы і салісты, як Двойчы Чырвонасцяжны ансамбль песні і танца Савецкай Арміі імя А. В. Аляксандрава, Вялікі хор Цэнтральнага тэлебачання і Усесаюзнага радыё пад кіраўніцтвам К. Пціцы, Эстрадны аркестр Цэнтральнага тэлебачання і Усесаюзнага радыё пад кіраўніцтвам Ю. Сіланцьева, вакальна-інструментальны ансамбль „Песняры", як лаўрэаты ўсесаюзных і міжнародных конкурсаў Г. Ненашава, М. Пахоменка, Э. Хіль, В. Вуячыч, В. Кучынскі, В. Падгайскі... І калі яшчэ і яшчэ ўслухаешся ў чулліва і па-майстэрску выконваемыя імі песні беларускага кампазітара, нельга не быць шчыра ўдзячным іх стваральніку за іх далікатнасць і чысціню, якімі ён раскрывае багацце духоўнага свету сучаснікаў. Сапраўднай любоўю да Радзімы і народу прасякнуты песні „Мы ідзем па краіне", „Наследства", „Радзіме".

Аднак было б несправядлівым лічыць Ігара Лучанка толькі аўтарам яркіх песенных багаццяў. І хаця яго творчае крэда, як сказаў паэт, раскрываецца ў строфах: „Я жыцця не магу сабе ўявіць без песні — ад пачатку да канца!", цікавымі старонкамі творчасці Ігара Лучанка з'яўляюцца таксама яго кантаты „Курган" (словы Я. Купалы), „Невядомы салдат" (словы П. Харкова), „Балада аб салдацкім сэрцы" (словы А. Пракоф'ева), струнны квартэт, санаты для фартэпіяна, для габоя, цымбальныя п'есы, рамансы на словы М. Бараташвілі, С. Капуцікян, М. Траата і іншых паэтаў.

Уклад Ігара Лучанка ў музычны летапіс жыцця народу сапраўды багаты думкамі і пачуццямі. На яго песню адгукаюцца мільёны сэрц.

**І. Нясневіч**
Фота **Э. Трыгубовіча**



TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 20.XII.** 6.00 Tech. Rol. Mat. 6.30 Bot. 10.00 Dyrektorzy. 13.30 Tech. Rol. Hist. 14.10 Hod. zwierz. 14.40 Pr. I prop. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Sport. 17.15 Dzien. 17.25 Obiektyw. 17.45 Za kierownicą. 18.05 Sobota Mł. 19.00 Kwadrans dla H. Frąckowiak. 19.20 Dobr. 19.30 Monitor. 20.20 Dyrektorzy. 21.30 Dzien. 21.50 Pr. rozr. 22.35 Stud. Muz. Rozr. 23.25 Opow. Star. Pana.

**Niedziela 21.XII.** 6.15 Tech. Rol. Hist. 6.45 Hod. zwierz. 7.15 Kurs Rol. 7.50 Przyp., radz. 8.00 Alarm przeciwpoż. trwa. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Bieg po zdr. 8.50 Pr. dnia. 8.55 Sport. 9.00 TELERANEK. 10.20 Antena. 10.40 Caravaggio — film ser. wł. cz. I. 12.00 Lekt. Pegaza. 12.15 Dzien. 12.35 Tydzień. 13.05 Dla dzieci. 13.55 BANK MIAST: Siemiatycze—Człuchów (I). 15.10 Łowca nagród — film fab. USA. 16.00 Los. Duż. Lot. 16.15 Refl. ob. 16.30 Sport. 18.15 Rodzina Whiteoaków — film ser. kan. 19.05 BANK MIAST. 19.15 Wieczor. 19.30 Dzien. 20.20 Bajka dla dor. 20.30 Dyrektorzy. 22.05 BANK MIAST. 22.50 Wieczorny gość. J. ZAKRZEŃSKI. 23.25 Sport.

**Poniedziałek 22.XII.** 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Chem. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.40 Echo stad. 18.05 Dzień po dniu. 19.00 Mam pomysł. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr TV: J. Słowacki. Horsztyński. 21.55 Świadkowie. 22.30 Dzien. 22.50 Sport. 23.00 Spotk. przy fort. A. KORZYŃSKI.

**Wtorek 23.XII.** 6.00 Tech. Rol. J. pol. 6.30 Chem. 9.00 Dla dzieci. 10.30 Dyrektorzy. 11.35 Rodzina Whiteoaków — film ser. kan. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.30 Mech. rol. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Na wielkim i mał. ekr. 17.30 Nie tylko dla pań. 17.55 Stud. Mł. 18.50 Fakty, Op., Hip. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Przyp., radz. 20.25 Czterdziestolatek. 21.20 Świat i Polska. 22.10 Dzien. 22.25 Pieśni — film balet. 22.55 Tor wolny.

**Środa 24.XII.** 15.35 Pr. dnia. 15.40 Los. Mał. Lot. 15.55 Dla dzieci: „Królowa Śniegu" — film fab. radz. 17.15 Dla dzieci: Bajkowy Koncert Życzeń. 18.15 Szopka ludowa. 18.45 Koncert muz. dawnej na Zamku Warsz. 19.15 Wiecz. 19.30 Dzien. 20.05 Popularne kolędy. 20.35 Niespotykanie spokojny człowiek — film fab. 21.35 Teatr Komedii: W. Bogusławski. Spazmy modne. 22.45 Żywoty instrumentów.

**Czwartek 25.XII.** 8.55 Pr. dnia. 9.00 Przygody Hucka Finna — film fab. radz. 10.35 Flip i Flap. 12.10 Świąteczna wizyta. 12.20 La serva Padrona — opera. 13.10 Dla dzieci. 14.00 Piórkiem i węglem. 14.25 Kolędy śpiewa I. Jarocka. 14.50 Świąteczna wizyta (2). 15.00 Stary strych. 15.45 Wielka gra. 16.35 Świąteczna wizyta (3). 16.45 Iwan Wasiliewicz zmienia zawód — film fab. radz. 18.15 Tele-Echo. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.05 Złoto MacKenny — film fab. USA (western). 22.05 Wieczór z gwiazdami. 23.05 Pr. rozr.

**Piątek 26.XII.** 8.55 Pr. dnia. 9.00 Zakazana Planeta — film fab. USA. 10.35 Przed Olimpiadą w Innsbrucku. 11.15 Gdy królowały gwiazdy — film dok. 12.25 Kolędowe impresje poetów. 13.05 Klub 6 Kont. 13.50 Świąteczna wizyta (4). 14.50 Świąteczna wizyta (5). 15.00 Operowe qui pro quo. 16.10 Pięcioraczki — rep. film. 16.55 Pieśń Norwegii — musical. 19.10 Świąteczna wizyta (6). 20.05 Mózg — film fab. fr. (komedia). 21.40 Winda. 22.40 Śpiewa N. Urbankova. 23.05 Bezdomna jaskółka — opera kom. w I akcie.

ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 19.XII** — 12.30 Filmy dok. 13.40 Koncert. 14.05 Film fab. 16.20 Film anim. 17.55 Film fab. 19.30 Film fab. 20.30 Koszykówka. Mistrz. ZSRR.

**Sobota 20.XII** — 11.05 Film fab. 12.25 Hokej. Finl.—ZSRR. 3 tercja. 16.00 Hokej. Szwecja—ZSRR. 18.15 Balet. 19.30 Teatr miniatur. 20.45 Koszykówka. Mistrz. ZSRR.

**Niedziela 21.XII** — 11.30 Film fab. 15.00 Klub film. 16.00 Hokej. ZSRR—Czechosł. Boks. Moskwa—Leningr. 19.30 Pr. muz.

КІНО

**Białowieża** Linia — pol. 23—24. Przerwana pieśń — bułg. 25—26. Dzielny szeryf Lucky Luke — fr. 27—28.

**Czeremcha** Doktor Popual — fr. 23—24. Głos z tamtego świata — pol. 27—28.

**Czyże** Gniazdo — pol. Miłość rozkwita w piątek — rum. 24—28.

**Dubicze Cerkiewne** Kraksa — wł. Kajtek i siedmiogłowy smok — węg. 24—28.

**Gródek** Polska gola — pol. 25—26. Linia — pol. 27—28.

**Kleszczele** Zabójstwo inżyniera Czarta — czes. 23—24. Był sobie drozd — radz. 25—26. Dzieje grzechu — pol. 27—28.

**Michałowo** Pięć łatwych utworów — USA 23—24. Zerwanie — fr. 25—26. Hene — RFN. 27—28.

**Mielnik** Płonąca tajga — radz. 24. Awans — pol. 27—28.

**Milejczyce** Człowiek na torze — pol. 23—24. Yuriko moja miłość — radz. 25—26. Wążżżż... — USA 27—28.

**Narew** Grzech Katarzyny — czes. Koniec wakacji — pol. 24—28.

**Narewka** Miłosne kłopoty — radz. Jarzębina czerwona — pol. 24—28.

**Nurzec** Śmiałość —radz. 23—24. Zew krwi — angl. 25—26. Kalina czerwona — radz. 27—28.

**Orla** Miasto w czerni — węg. Zapamiętaj imię swoje — pol. 24—28.

**Rajsk** Noc na Karlsztejnie — czes. Awans. — pol. 24—28.

**Suchowola** Znikąd do nikąd — pol. Wielka noc i wielki dzień — czes. 24—28.



B.Z.Graf. Zam. 3074. P-1.

 

## Сардэчны прыём песень гарадоцкага хору




*Спявае хор з Гарадка.*

Любяць у нас песні, любяць спяваць. А ўжо, бадай, усе любяць паслухаць прыгожыя песні ў выкананні вядомага жаночата хору з Гарадка.

23 лістапада спяваў ён для жыхароў Нараўкі і Плянты. Выступіў з багатым рэпертуарам і, як заўсёды, у касцюмах з беларускім арнаментам. Усе песні выконваліся на высокім мастацкім узроўні, усе падкуплялі слухачоў прыгажосцю мелодыі і зместу. Асабліва шмат было беларускіх народных песень. Апрача таго, публіка цёпла ўспрымала ваенныя песні на рускай і польскай мовах. Гарадоцкія жанчыны паказалі, што маюць звонкія, моцныя галасы. Прысутным, а было іх набіта ў залах як у Нараўцы, так і ў Плянце, асабліва спадабаліся песні „Люблю наш край“, „Шумлівыя бярозы“, „Жыць стала хораша“, „Коціць у даль Вісла быстрыя воды“, а таксама жартаўлівыя „Віла жонка мужыка“, „Камарык“, „Гарадоцкія частушкі“, „Кураняткі“, „Вось паехаў з бабай дзед“ і іншыя. Паспяхова выступілі ў дуэтах Рая Дылько, Ірэна Паўлючук, Лена Кот, Ніна Мушынская і Ніна Парэмбская. Усе песні выконваліся пад акампаніямент мастацкага кіраўніка Сцяпана Копы. Вяла канцэрты Людміла Васілюк.

Пасля выступлення харавога калектыву з Гарадка ў Нараўцы, моладзь уручыла яму букет гваздзікі і сардэчна дзякавала. Цёплы прыём аказалі харысткам і ў Плянце, і яны паабяцалі прыехаць сюды з новай праграмай.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**



*Люся Васілюк выступае з гумарэскай.*



*Вялікае зацікаўленне на тварах жыхароў Нараўкі.*

## ХРОНІКА

■ 25 лістапада адбыўся пленум гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку. Прысвечаны ён быў заданням, вынікаючым з дырэктываў ЦК ПАРП на VII З'езд, а таксама падрыхтоўцы аддзела да справаздачна-выбарнага сходу. З дакладам на гэту тэму выступіў старшыня аддзела Мікалай Гайдук. Затым ажыўленая дыскусія ўдзельнікаў пленума закранула ўсе істотныя пытанні клубнай працы, а многія прапановы былі пранізаны думкай аб узняцці дзейнасці аддзела на вышэйшы ўзровень. Але пры гэтым неабходны вялікі ўклад грамадскай працы ўсяго актыву аддзела разам са штатным працаўніком — Марыяй Ляончук. У дыскусіі выступілі з каштоўнымі прапановамі Сакрат Яновіч, Іван Стрышко, Уладзімір Навіцкі, Міхась Хмялеўскі, Янка Гогель, Янка Зенюк, Анатоль Казмерчук, Янка Ахрымюк і Яўгенія Іванюк. Падсумаваў дыскусію старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік. Пленум пастанавіў у канцы студзеня правесці справаздачна-выбарны сход. Штатнага працаўніка аддзела — Марыю Ляончук удзельнікі пленума выбралі сакратаром аддзела. Пасля пленум разгледзеў і зацвердзіў 42 кандыдатуры асоб, жадаючых уступіць у рады БГКТ.

■ Пленарнае пасяджэнне мілейчыцкага аддзела БГКТ таксама абмяркоўвала актуальныя справы аддзела і асабліва статутовую дзейнасць гурткоў БГКТ, у якіх неўзабаве распачнуцца справаздачна-выбарныя сходы. Даклад, зроблены сакратаром аддзела Міхасём Вішанкам, быў прыняты як напрамак дзейнасці ў перыяд справаздачна-выбарнай кампаніі аддзела.

■ 29 лістапада радай клуба гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку была арганізавана маладзёжная вечарына, так званыя „Анджэйкі“.

■ 30 лістапада калектыў песні і танца „Белавежа“ з Белавежы даў канцэрт у Чаромсе і Дубічах Царкоўных.

## РАДАСЦЬ ВУЧНЯМ І ШКОЛАМ

Умовы вучняў бельскіх сярэдніх школ не надзвычайныя. Не, рэч ідзе тут не пра заняткі, не пра абсталяванне класаў. Вучоба — гэта не толькі выслухоўванне лекцый у прыгожых класах. Прыйдзе час, і трэба выявіць свае веды ды даць разлік з таго, чаму навучыўся. А гэта патрабуе шмат працы. Многія нават сабе не ўяўляюць, якая цяжкая гэтая праца, асабліва для тых, што паходзяць з па-за Бельска. Частка з іх знаходзіць прытулак у перапоўненых прыватных кватэрах, на гаспадароў якіх так дзейнічае запах грашэй, што забываюць пра абавязак стварэння адпаведных умоў. — Ды што ім, яны прынамсі на месцы, — гавораць тыя, што, тулячы голаў у каўнер паліто, чакаюць аўтобуса, які не толькі зімой, але і летам часта натурыцца.

Аднак загараецца агеньчык лепшага. 3 лістапада 1975 года 500 вучняў розных бельскіх школ перакрочыла парог новапабудаванай пяціпавярховай школьнай бурсы. 17 мільёнаў злотых не загінула дарма. Аж сэрца смяецца, калі глядзіш на вясёлыя твары гэтых маладых людзей. Заглянем у сярэдзіну. Цудоўнае памяшканне. Налічвае яно 125 пакояў, з якіх кожны велічынёй 20,5 квадратных метраў і памяшчае па 4 асобы. Што ж ёсць у такім пакойчыку? Стаіць даволі вялікая шафа, стол, крэслы, чатыры тапчаны, а пасля Новага года кожны вучань атрымае начную лямпу. Лепш не трэба. Умовы вельмі добрыя. Зрэшты, так гавораць і самі вучні. Аднак пакой — гэта месца, дзе адбываецца толькі дашліфоўка ведаў, а для пастаяннай самастойнай вучобы ёсць 18 спецыяльна выдзеленых залаў. Там ужо ніхто нікому не перашкаджае. Кожны можа спакойна заглыбляцца ў свае падручнікі. Аднак безупынная аднастайная праца вельмі хутка стамляе чалавека. Усе аб гэтым добра ведаюць. Трэба ж нейкі і адпачынак уладзіць. З такой думкай і зрабілі тут святліцу, якая аднаразова памяшчае каля 200 чалавек. Добра прыйсці сюды, сесці на крэсла, зменшыць унутраную напружанасць і з агульным аблягчэннем глянуць на шкляны экран каляровага ці чорна-белага тэлевізара. Калі гаворым пра ўмовы, то нельга не сказаць і аб сацыяльных. Яны таксама вельмі добрыя. На сем асоб прыпадае адзін пункт. Ёсць тут таксама і механічная пральня.

Добра, добра, але як з харчаваннем? Калі не дасі гаручага, дык і матор згасне! Ёсць тут даволі вялікая, аж на 220 асоб, сталовая, якую абслугоўвае 8 кухарак. Дзённае харчаванне каштуе 18,10 зл. Аднак, усе вучні, што тут жывуць, атрымліваюць стыпендыю, якая ў большай частцы пакрывае гэтую суму.

Як было ўжо сказана, кожная сярэдняя школа, існуючая ў Бельску, мае тут пэўную колькасць сваіх месц. І так: комплекс эканамічных школ — 150 месц, прафесіянальныя школы — 200 месц, ліцэй імя Т. Касцюшкі — 70, беларускі ліцэй — 80 месц. Гэтыя месцы сярод вучняў дзяліла ўжо школа. Як крытэрый падзелу брала перш за ўсё матэрыяльныя ўмовы.

500 чалавек — гэта не жартачкі. Трэба ж імі неяк пакіраваць ды дагледзець. У сувязі з тым, працуе тут 7 апекуноў з дырэктарам Янам Купінскім на чале. Усе яны маюць свае памяшканні і зорка сочаць за парадкам. Вучням дапамагаюць як могуць, ды нават не толькі тым, якія тут жывуць. Хочуць яны ўладзіць абеды і тым, якія знайшлі прытулак на прыватных кватэрах.

Пакуль што ўсё тут яшчэ дапрацоўваецца. 19 кастрычніка, з удзелам прадстаўніка Міністэрства здароўя адкрылі міжшкольную санітарную амбулаторыю, якой так не хапала ў Бельску. Думаюць таксама стварыць духавы аркестр. Настаўнік ужо ёсць, інструменты таксама (частку дае бельская музычная школа, а частку купяць за тыя 500 тыс. зл., якія абяцала даць папячыцельства) — дык чаго ж больш трэба? Зразумела, ахвотных, якія напэўна знойдуцца. За два месяцы ў кожным пакойчыку паявіцца „точка“. Гэта першы крок да радыёвузла, які ў будучыні хочуць тут зрабіць.

Моладзь таксама ўносіць вялікі ўклад. Арганізуе яна пад кіраўніцтвам рады жыхароў розныя працы пры добраўпарадкаванні. Паяўляюцца розныя гурткі зацікаўлення. Адным словам, моладзь умее задбаць пра сябе.

Аднак, праблема поўнасцю не вырашана. Многія яшчэ з агеньчыкам суму спаглядаюць на гэты прыгожы будынак. Але хто ведае, можа праз некалькі год знойдзецца выхад. Пачатак жа добры.

**М. Шаховіч**

*Наш каляндар*

## ШВАЙПОЛЬТ ФІЁЛЬ

Калі ў 1447 г. у нямецкім горадзе Майнц з варштату Іагана Гутэнберга пачалі выходзіць першыя друкаваныя выданні, гэты факт адкрываў новую эпоху ў гісторыі асветы і культуры ў Еўропе і на ўсім свеце. Кніга — скарбніца ведаў — станавілася ўсё больш даступнай шырокім колам грамадства. Кнігадрукаванне неўзабаве пашыраецца па ўсёй Еўропе: у 1465 г. паўстае друкарня ў Італіі, у 1468 г. — у Чэхаславакіі, у 1470 г. — у Францыі, у 1473 г. паяўляюцца першыя друкаваныя выданні ў Польшчы. Але ўсе гэтыя выданні друкаваліся лацінскім алфавітам і не былі даступны тым народам, перш за ўсё ўсходнім і паўднёвым славянам, якія карысталіся кірылаўскім алфавітам.

Пераломны момант наступіў у тагачаснай аграмаднай манархіі караля польскага і вялікага князя літоўскага Казіміра Ягелончыка, у якой лацінскі і кірылаўскі алфавіты на роўных правах ужываліся ў дзейнасці манаршай канцылярыі, дзяржаўнай адміністрацыі, судах і ў штодзённым жыцці адукаваных людзей. За ведамам караля і пры матэрыяльным забеспячэнні магнатаў з Вялікага княства Літоўскага ўзяўся выдаваць кнігі кірылаўскім алфавітам кракаўскі мешчанін нямецкага паходжання Швайпольт Фіёль. Належаў ён да тых зваротлівых, прадпрыймальных і адукаваных людзей, якіх паклікала да дзейнасці веянне ідэй пачынаючайся эпохі Адраджэння. У Кракаве ён быў вядомы як дасканалы вышывальнік па шоўку, канструктар-вынаходца адмысловых машын да асушвання шахтаў, дасканалы рысавальнік і разьбяр. Па яго заказу іншы кракаўскі рамеснік Рудольф Барсдорф нарыхтаваў кірылаўскі шрыфт. Невядомыя нам па прозвішчах адукаваныя людзі родам з Беларусі і Украіны адрэдагавалі і падрыхтавалі да друку тэксты. І **вось у 1491 годзе з друкарні Швайпольта Фіёля ў Кракаве выходзяць дзве першыя друкаваныя кірылаўскім алфавітам кнігі „Октаіх“ і „Часаслоў“.** Яны прадназначаліся для царкоўнага багаслужэння. Апрача іх, Ш. Фіёль выдаў яшчэ „Трыёдзь посную“ і „Трыёдзь каляровую“. Усе яны былі выдадзены на царкоўнаславянскай мове і карысталіся вялікім попытам на Беларусі і Украіне.

Аднак сітуацыя ў краіне ў тым часе змянілася не на карысць першадрукара. Паўднёвыя і ўсходнія граніцы Вялікага княства Літоўскага апынуліся ў пагрозлівым палажэнні, з Кракава ў адлеглую Вільню выехалі дагэтуляшнія магнаты-апекуны Ш. Фіёля. Гэта выкарысталі вярхі каталіцкага духавенства, што непрыязным вокам глядзелі на працу першадрукара, якая ўзмацняла праваслаўе, і, абвінаваціўшы яго ў гусіцкай ерасі, арыштавалі яго. Але 21 лістапада 1491 г. выпусцілі з турмы, відаць, дзякуючы намаганням некага з каралеўскага двара. Сітуацыя ў Вялікім княстве Літоўскім пагаршалася, у маі 1492 г. туды падаўся са сваім дваром Казімір Ягелончык, захварэў там і 7 чэрвеня 1492 г. памёр у Гродне. У часе адсутнасці каралеўскага двара кракаўская каталіцкая інквізіцыя 8 чэрвеня 1492 г. зноў паставіла Ш. Фіёля перад сваім судом і загадала, каб ён адмовіўся ад свае выдавецкай дзейнасці, знішчыў варштат і спаліў надрукаваныя кнігі.

Калі 11 ліпеня 1492 г. саркафаг з целам караля Казіміра Ягелончыка спачыў на Вавелі ў Святакрыжскай капліцы, сцены якой здобілі візантыйскія праваслаўныя фрэскі, пасля фіёлевай друкарні не засталося і следу, а вецер ужо разнёс попел з яго спаленых кніг. Да нашых часоў захавалася толькі некалькі іх экземпляраў.

Памёр Ш. Фіёль у 1525 г., але справа, пачатая ім, не загінула. У 1494 г. у горадзе Цэціння ў Чарнагорыі выпускае сваю першую кнігу кірылаўскім алфавітам іераманах Макарый, а ў 1517 г. у чэшскай Празе выходзіць першая кніга „Бібліі“ беларускага першадрукара Францішка Скарыны. (іс)



 

 

(Працяг са стар. 1)

# У ЧАЛАВЕКА ЛЕСУ

кладнае выхаванне сына. Пасля дэмабілізацыі ў яго адкрываліся шырокія магчымасці паступіць у ваенную акадэмію або на спакуслівую службу на славутым пасажырскім параходзе „Баторы“. Аднак перамог кліч лесу, і ён выбраў працу ў лясной глухамані. Адмаўляючыся ад заслужанага адпачынку пасля цяжкога працавітага дня, цэлыя ночы праседжваў за кнігамі, а потым дабіраўся лясным бездарожжам да чыгуначнай станцыі, каб ехаць на чарговую сесію на завочным аддзяленні ляснога факультэта Сельскагаспадарчай акадэміі ў Познані.

— Заўсёды я лічыў, што праца ў лесе вымагае грунтоўнай адукацыі, і свой дыплом інжынера па лясной справе „рабіў“ я вельмі ахвоча, — кажа мой размоўца. — Але не толькі. Аказваецца, што часам патрэбна сіла і спрыт. Было гэта недзе ў 1957 годзе. Тады я працаваў у лясніцтве ў Кумялцы каля Чорнай Беластоцкай. Я, фурман і касір везлі грошы на зарплату лясным рабочым. Быў цудоўны марозны месячны вечар. Весела прыхаў конь, імкліва ляцелі санкі-шыткі. Раптам дарогу нам заехала легкавая машына. Спачатку пыталіся пра дарогу да Разадранкі, а потым кінуліся на мяне. Касір быў інвалідам і ні ў чым не мог дапамагчы, а перапалоханы фурман схаваўся за каня. Мне ўдалося аднаго бандыта зграбастаць пад сябе, але ў той час другі ўдарыў прыкладам аўтамата мяне ў голаў. Я страціў прытомнасць. Забралі 30 тысяч злотых. Праўда, злачынцаў потым злавілі і судзілі, а я і па сённяшні дзень нашу шрам на галаве...

Гаспадарка ў валілаўскім надлясніцтве не малая: каля 20 тысяч гектараў лесу. За гэтую пяцігодку прыбыло 4 тысячы новых лясных насаджэнняў, столькі ж прыбудзе іх і ў будучым пяцігоддзі. Перад пасадкай праводзяцца скрупулёзныя доследы кожнай лапінкі зямлі, каб на адпаведным падглеб'і садзіць той гатунак дрэў, які дасць як мага хутчэйшы прырост высакаякаснай драўніны. Пры гэтым лясная гаспадарка даўно адмовілася ад залясення вялікіх абшараў аднолькавымі дрэвамі. Цяпер садзяць мешаны лес, вялікую ўвагу звяртаюць на пасадку розных кустоў: каліны, чорнага бэзу, дзікай ружы, чаромхі. Словам, лясная гаспадарка вяртаецца да натуральных законаў прыроды, бо толькі яны забяспечваюць лес ад розных шкоднікаў і гарантуюць здаровае сужыццё раслін з жывёламі. А гэтых апошніх у валілаўскіх лясах няспынна прыбывае. Калісьці заблукаў сюды зубр-адзіночка. У 1973 г. з Белавежы перасялілі сюды іх 5 штук. І зубрам палюбілася наваселле — іх цяпер тут 9 штук. Некалі блукала таксама некалькі ласёў, а ў сучасны момант жыве іх тут каля 30 штук. Паявіліся рысі, а на такавішчы каля Турава і Радуніна злятаецца да дваццаці штук цецерукоў. Так, колішняя Гарадоцкая пушча адраджаецца. Нават славутую супрасльскую сасну тут разводзяць.

— Новыя лясныя насаджэнні адбываюцца за кошт зямель з дзяржаўнага фонду, гэта значыць гаспадарак, якія або пакінулі сяляне і выехалі ў горад, або здалі за пенсію. І гэта нас мала цешыць, — заўважае М. Варэйка. — Праўда, садзім лес на самых слабых глебах, са знішчанай структурай, неўраджайных. Але ж калісьці там расло жыта, грэчка, сырадэля, лубін. Вядома, ураджай быў невялікі, але ўсё ж збіраўся нейкі пуд жыта ды вазок кармоў. Часам трапляюцца кавалкі з моцным падглеб'ем, на якіх замест лістоўніцы ці дуба, якія мы садзім, мог бы расці дасканалы фруктовы сад. Нашыя сельскагаспадарчыя ўстановы павінны над гэтым задумацца. Нам жа патрэбны не толькі лес, але і хлеб...

Асаблівую прыемнасць М. Варэйку прыносіць супрацоўніцтва з маладзёжнымі ОГП, якія працуюць у час вакацый. Аказваецца, наша моладзь надта любіць і шануе лес. Таксама і ў свядомасці вучняў са школаў у Вераб'ях, Залуках, Валілах, Гарадку гэтая любоў да лесу з кожным годам узмацняецца. Яны ахвотна працуюць пры доглядзе лясных школак, на пасадках, у суровыя зімы забяспечваюць лясных звяроў кормам, сцерагуць лес ад пажараў. Адыходзіць у нябыт колішняя прыказка: „Хто ў лесе не злодзей, той у хаце не гаспадар“. Людзі шануюць лес, як сваё агульнае багацце. І гэта з асаблівым гонарам падкрэслівае М. Варэйка — чалавек, што аддаў лесу 28 год сваё настойлівай і нялёгкай працы.

**Ігнат Снарскі**
**Фота аўтара**

## БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

У кнігарні імпартных выданняў у Беластоку, вул. Кілінскага 10, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

**Казека Янка,** Голас часу, 1975, стар. 384, цана 6 зл. 50 гр.

Зборнік артыкулаў вядомага беларускага літаратурнага крытыка. Артыкулы прысвечаны Я. Коласу, Зм. Бядулі, К. Чорнаму, І. Мележу, В. Вітцы і іншым беларускім пісьменнікам.

**Пташнікаў Іван,** Мсціжы, 1972, стар. 376, цана 8 зл. 40 гр.

Раман, прысвечаны жыццю, канфліктам і падзеям у беларускай вёсцы пасля апошняй вайны.

**Багдановіч Максім,** Вершы, 1973, стар. 224, цана 1 зл. 70 гр.

У зборнік увайшлі лепшыя творы нашага вялікага лірыка. Артыкул аб творчасці М. Багдановіча пяра Н. Гілевіча.

**Бядуля Змітрок,** Апавяданні, 1973, стар. 160, цана 3 зл.

Выбар апавяданняў аднаго з пачынальнікаў беларускай прозы. Уступны артыкул І. Кудраўцава.

**Папоў І., Бараноўская А.,** Спевы, І клас, 1972, стар. 128, цана 3 зл. 60 гр.

Тэорыя навучання спеваў у І класе, выбар беларускіх песень для наймалодшых.

**Бараноўская А. І., Марцынюк Я. І.,** Спевы, трэці клас, 1973, стар. 144, цана 3 зл.

Разам з тэорыяй спеваў у падручніку багаты выбар цікавых беларускіх песень.

Варта, каб абодва падручнікі апынуліся ў руках настаўнікаў беларускай мовы і музычнага выхавання, асабліва цяпер, калі пачалася падрыхтоўка да конкурсу „Беларуская песня - 76“ для школьнай моладзі.

Кнігарня ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні кіруйце па адрасу:
„Dom Książki”, Białystok, 15-089, ul. Kilińskiego 10.

(мг)

## КУБАК ГАРАЧАГА МАЛАКА



Званок сваёй пералівістай песняй, адчыняючы дзверы ўсіх васьмі класаў на вялікі перапынак, аб'явіў заканчэнне трэцяга ўрока. Яшчэ і не паспелі вокладкі дзённіка надобра закрыць тую радасць і няшчасце, што прынеслі толькі што закончаныя заняткі, як вучнёўскія рукі пацягнуліся пад парты, выцягваючы адтуль кубкі і сурвэткі — плады практычных заняткаў. Настала чаканне. Дзіцячыя вочы так і спаглядалі на дзверы, у якіх вось-вось пакажацца добрая пані з вядром гарачага малака і кошыкам свежанькіх булачак. Так паўтараецца ўжо пяты год — ад другога кастрычніка і да трыццатага красавіка кожны дзень падрад. Сёлета да такой ступені было разгорнута дакармліванне дзяцей, што пачатковая школа ў Арэшкаве заняла першае месца ў ваяводстве. Дырэкцыя падпісала дагавор з цэнтрам скупкі малака ў сваёй вёсцы. Малако атрымоўваюць высакаякаснае. Няма тут ніводнага вучня, які б яго не піў. Ды не толькі малако. Часамі трапляе нават сыр розных гатункаў. Цяжэй з булкамі. Не, гэта не значыць, што іх не хапае. Толькі шлях, якім яны сюды даходзяць, не надта задавальняючы. Дастаўляе іх пякарня з Белавежы. Аднак замест таго, каб частку даваць на вучнёўскі кааператыў, то ўсе пакідаюць у вясковай краме. І вучні разам з прыбіральшчыцай Надзяй Літвінюк, якая апякуецца гэтай справай, мусяць цягаць іх у адкрытых кошыках праз цэлую вёску. А гэта ж вядома — не вельмі гігіенічна. Столькі ж рук да іх дакранаецца! Ды і другая яшчэ праблема тут выступае. Да арэшкаўскай школы даязджае шмат дзяцей з іншых вёсак. А перш за ўсё маю на думцы 45 дзяцей з Вітава, якія да позняга вечара без абеда чакаюць цягніка. Добра было б нешта перакусіць. Нават тая булачка (каб была ў вучнёўскім кааператыве) і то як многа ім бы дапамагла!

**М. Ш.**

Фота **Я. Цялушэцкага**



**З ахвотай п'юць малако другакласнікі з Арэшкава.**

(Працяг са стар. 1)

## У Панятовічах, дзе палякі гавораць па-беларуску

— Бо „па-простаму“, — дадае дачка, — найлягчэй нам дагаварыцца...

— А я і сама не ведаю, якая гэта мова, — гаворыць далей пані Рамуальда. — **Толькі памятаю, што ў нашай вёсцы заўсёды так гаварылі: і мая маці, і мая бабулька...** Але мы — **палякі,** — яшчэ раз рашуча дадае яна. — І папольску заўсёды гаворым з чужымі, што да нас прыязджаюць, па-польску гаворым таксама ў касцёле, калі збярэмся на малебень, і ў горадзе, калі паедзем за справункамі.

— І маладыя, — папаўняе яе дачка Раймунда, — калі заканчваюць школы, ужо саромяцца сваёй простай гаворкі, ды ўсё часцей карыстаюцца польскай мовай, якую ўсе мы добра ведаем.

Ад нашай сустрэчы ў Панятовічах прайшло ўжо некалькі тыдняў, аднак я вельмі часта думаю пра жыхароў гэтай вёскі. Сапраўды, яны ў сваім глыбокім перакананні з'яўляюцца палякамі па нацыянальнасці. **Аднак гэтыя палякі ўсё яшчэ штодзённа карыстаюцца беларускай мовай...** Праблема цікавая. І не журналісту яе вырашаць. Тут патрэбны сацыёлаг.

**Віктар Рудчык**

## А. Амільяновіч зноў на рускай мове

У выдавецтве Міністэрства Абароны СССР выйшла новая кніжка вядомага польскага пісьменніка-дакументаліста, аўтара вельмі многіх кніг на партызанскія і ваенныя тэмы Беласточчыны — Аляксандра Амільяновіча пад загалоўкам „В тылу врага“. Польскі загаловак гэтай кніжкі „Вырок“, трэцяе выданне яе паступіць у нас у продаж. „В тылу врага“ выйшла ў перакладзе В. А. Глазава, П. К. Косцікава і В. А. Святлова. Гэта другая пазіцыя аўтара на рускай мове. Першай быў „Смысл жизни“ („Сэнс жыцця“), выйшла ў тым жа выдавецтве ў мінулым годзе. (вл)

## БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА — АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### АЛЕСЬ ГАРУН — ЧАСТКА XXXV

**Заканчэнне.** Першай рысай паэзіі Гаруна з'яўляецца павышаная эмацыянальнасць. Незалежна ад таго, ці Гарун піша аб сабе ці аб іншых, заўсёды глыбока ён ангажуецца ў прадстаўленыя з'явы. Эмацыянальнасць і ўзрушанасць характарызуюць нацыянальную і сацыяльную лірыку Гаруна. Гэтыя рысы акрэслілі таксама яго пейзажныя вершы і, зразумела, Гарунову лірыку кахання. Паэзія была для Гаруна выяўленнем болю і радасці, бязвер'я і надзеі, нянавісці і кахання, а ўсе ж гэтыя пачуцці і схільнасці належаць, як вядома, да эмацыянальна-пачуццёвай праслойкі чалавека. Зразумела, у паэзіі Гаруна знаходзім таксама вершы, падыктаваныя розумам, рацыяй, аналізам, тактыкай. Такія творы больш „класіцыстычныя“ і „халодныя“. Першае слова ў іх гаворыць не сэрца, а розум. Аднак, вершы рацыяналістычныя ў творчасці паэта выступаюць намнога радзей, чым вершы эмацыянальна-пачуццёвыя.

Другая рыса вершаў Гаруна праяўляецца ў іх утончанай, ускладнёнай форме. І тут Гарун становіцца братам Багдановіча. Паэт разумеў, што простыя праўды, непасрэдныя ідэі, надзённыя няшчасці загучаць мацней, больш узрушаць, хутчэй прабудзяць, калі будуць выяўлены ў паглыбленай, скамплікаванай, прыгожай форме. Нельга сказаць, што ў паэзіі Гаруна форма дамінуе над зместам, але і змест не дамінуе тут над формай. Можам гаварыць аб гармоніі, аб прыгожай раўнавазе формы і зместу. У глыбокім творы пад загалоўкам „Апокрыф“ Багдановіч на прыкладзе Васілька, вырасшага ў жыце, даводзіў, што яго прыгажосць карысная для чалавека. Няма сумненняў, што і Гарун быў прыхільнікам тэзіса аб карыснасці прыгажосці. Пасведчанне гэтага — вершы паэта. Ёсць няпісаны алфавіт харараства ў прыродзе, у чалавеку, у адносінах між людзьмі, у адносінах паміж чалавекам і прыродай. Гэты алфавіт трэба вывучаць усё жыццё. Ніхто не звольнены ад гэтага абавязку. Паэзія, быць можа, найлепшы спосаб вывучэння логікі прыгажосці. Элементы такой навукі знаходзім мы ў творчасці Багдановіча і Гаруна.

Трэцяя рыса Гаруновай паэзіі — гэта яе псіхалагізм. Пісьменнік не слізгаўся па паверхні жыцця. Стараўся заглянуць у яго глыбіню. Не прадстаўляў ён сваіх паверхнасных уражанняў. Стараўся адлюстраваць усё ў псіхалагічнай паглыбленасці. Гарун не быў абыякавым ілюстратарам падзей. Не быў паэтычным, рыфмаваным фатографам. Глядзеў не толькі вачыма, але і душой. Усё працэджваў праз прызму ўласнага „я“. Адсюль вынікае не толькі псіхалагізм, але і ўсебаковы суб'ектывізм яго паэзіі. Часта гэты суб'ектывізм шкодзіць аб'ектывізму, але яшчэ часцей адкрывае нам вочы на тое, чаго мы дагэтуль не бачылі, памагае пераацаніць цэннасці, глянуць на штосьці, або на кагосьці, або на саміх сябе з іншага пункту гледжання, з новай плоскасці. Псіхалагізм і суб'ектывізм Гаруна расшыраюць свет нашых уяўленняў, вучаць талерантнасці, пераконваюць, што на адны і тыя самыя з'явы можна глядзець па-рознаму, вучаць пашане да іншага, чым нашае, успрыняцця свету.

Чацвертая рыса творчасці Гаруна датычыцца яе грамадскага пафасу. Ні ўтончаная форма вершаў пісьменніка, ні паглыбленая псіхалагізацыя не пашкодзілі сувязі гэтых твораў са справамі роднага краю, з гістарычным мінулым, актуальным пытаннем сучаснасці, з сацыяльнымі і нацыянальнымі праблемамі беларусаў. Сваё „я“ ўмеў Гарун падпарадкаваць грамадскаму „мы“. У большасці яго вершаў моцна гучыць матыў народнай нядолі і народнай надзеі. Няма сумненняў, што паэзію трактаваў Гарун, як фактар выхавання беларуса новага тыпу, беларуса крытычнага, творчага, нацыянальнага, багатага розумам і душой.

Пятую рысу паэзіі Гаруна вызначаюць непаслядоўнасць, сумненні, праявы містыцызму. Усё гэта, несумненна, пярэчыць вылічаным намі раней рысам. Для частковага апраўдання пісьменніка трэба сказаць, што непаслядоўнасць і супярэчнасці — гэта рысы толькі невялікай часткі яго вершаў. Аднак, можам спытаць, адкуль яны ў Гаруна, якія прычыны іх паяўлення? На такое пытанне поўнасцю мог бы адказаць толькі сам пісьменнік. Ад сябе можам сказаць — кожны глыбокі



 

## ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

# Цімафей Александрук



Перадавым гаспадаром у Гайнаўскай гміне з'яўляецца Цімафей Александрук з вёскі Дубічы Асочныя. Спачатку гадаваў ён свіней. Штогод прадаваў дзяржаве не менш чым па 50 тучнікоў. Сёлета пачаў гадаваць мясны рагаты дабытак, мяшанцаў — „шаралезаў" з быдлам пароды „нцб". Ёсць іх у яго 57 штук. Для гэтай хатняй жывёлы дубіцкі земляроб пабудаваў вялікую механізаваную абору з абсталяваннем для выгрузкі гною з хлява, з аўтаматычнымі паілкамі. Для дабытку гаспадар нарыхтоўвае значную колькасць высакаякасных кармоў: па некалькі тон кармавых буракоў, бульбы, кішонак, канюшыны, пашавай мяшанкі „Т", сена.

Цімафей Александрук у мінулым годзе, калі ўрадзіла жыта, пшаніца і ячмень, прадаў 15 тон збожжа. Даставіў яшчэ на пункт скупкі чатыры тоны рапсу (рапаку). Удаецца ў яго асабліва бульба „Флісак", якой сабраў 320 цэнтнераў толькі з доследных палеткаў.

Працалюбівы гаспадар мае ўласны трактар і ўсе неабходныя сельскагаспадарчыя машыны. Збіраецца купіць сабе яшчэ камбайн „Вістулю".

Мае Цімафей Александрук прасторны мураваны дом з цэнтральным ацяпленнем, з вадою з крана, ваннай, з прыгожа памаляванымі сценамі і падлогамі. Гэта адзін з прыгажэйшых дамоў у вёсцы.

Гутарым мы з селянінам Ц. Александруком, і ён успамінае не такія даўнія часы, бо ўсяго 1967 год. Вярнуліся яны тады з жонкай у вёску з Гайнаўкі, дзе Цімафей Александрук працаваў у будаўніча-рамонтным кааператыве „Чын". Пашкадаваў пакінуць так сабе бацькавую гаспадарку. Зямля ж тут добрая. Пачалі будавацца, а ў сувязі з тым і жыццё неяк нанава. Не цураліся Цімафей і яго жонка цяжкай працы. Працавалі, як кажуць, да сёмага поту. Але ёсць і вынікі. Яны цешаць, заахвочваюць да новых імкненняў.

— Вось ізноў неўзабаве буду мець так неабходныя на гаспадарцы свежыя ды немалыя грошы, — кажа гаспадар. — Буду прадаваць 16 штук адкормленых бугаёў. Пойдуць яны у першы сорт.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**

## ФАЛЬКЛОР

### ПАНШЧЫННАЯ




*Млода дзеўчына, млода,*
*ўскочыла до огрода,*
*чэрвонэ кветкі рвала —*
*на службу нарэкала.*
*Чэрвонэ кветкі рвала —*
*на службу нарэкала:*
*— Ой, служба ж, моя служба,*
*ты — ні родна маці,*
*мне голоўка боліт,*
*а пані кажэ ўстаті.*
*Мне голоўка боліт,*
*а пані кажэ ўстаті.*

*Укроіў мне пан хлеба,*
*як кленовы лістэк,*
*а пані выпытуе:*
*„Чы з'ела, дзеўка, ушыстэк?"*
*А пані выпытуе:*
*„Чы з'ела, дзеўка, ушыстэк?"*
*— Ой, з'ела, пані, з'ела*
*ў коморы за дзверамі, —*
*ў коморы за дзверамі,*
*залілася слезамі.*
*У коморы за дзверамі, —*
*залілася слезамі.*

Ад Веры Паповай, 1932 г. нараджэння, г. Беласток, якая навучылася гэтай песні ад сваіх матулі, бабулі і цёткі, што жылі ў вёсцы Гнецюкі каля Заблудава, запісаў 20 кастрычніка 1975 г. М. Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі — Л. Панько.

## ЗА ЮРЫДЫЧНАЙ КАНСУЛЬТАЦЫЯЙ — У ГП БГКТ

**Як мы ўжо паведамлялі ў папярэднім нумары, ад новага года юрыст, што прымаў наведвальнікаў у „Ніве", будзе даваць парады ў будынку ГП БГКТ. Гэту змену ўводзім дзеля выгады наведвальнікаў. Іх з'яўлялася з кожным годам усё больш, і наша цеснае рэдакцыйнае памяшканне не магло стварыць спрыяльных умоў для працы юрыдычнай кансультацыі. Таму мы з прыемнасцю падтрымалі прапанову ГП БГКТ перанесці наш юрыдычны пункт у будынак таварыства. Для выгады наведвальнікаў мяняем і гадзіны прыёму юрыста з 11-12 на 10-11. Вядома, як і раней, наш юрыст не будзе трымацца гадзіннай рамкі, будзе прымаць датуль, пакуль не прыме ўсіх. Але дзяжурства яго ад 10 да 11. Таму трэба прыходзіць у гэты час. Можа быць такая сітуацыя, што наведвальнікаў якраз у дадзены дзень будзе мала. Юрысту час таксама дарагі, тым больш што наш юрыст, Вінцук Склубоўскі, будзе весці кансультацыйны пункт пры ГП БГКТ, як было і ў рэдакцыі, на грамадскіх пачатках.**

**Дык да сустрэчы з нашым юрыстам у будынку ГП БГКТ на вуліцы Варшаўскай 11! Кансультацыя бясплатная.**

## Кажуць, што...

*у Вольцы Выганоўскай, што ў Арлянскай гміне, члены дабравольнай супрацьпажарнай каманды, моладзь ды і дарослыя намерваюцца грамадскім чынам пабудаваць добрую рамізу, а пры ёй ладны клуб. Але колькі яны не прасілі ў Бельскім бюро геадэзіі ды ў інжынера, што правodзіў нядаўна камасацыю зямлі ў вёсцы, аніяк не дапрасіліся, каб выдзелілі пляцоўку на пабудову, хоць вольных пляцоў тут удосталь. Відаць, інжынеры чакаюць „гусака". Вось каб „адмерыць" гэтым чыноўнікам чым-небудзь пругкім ды моцным па іхняй ср...цы, дык ведалі б тады, як гамаваць каштоўную грамадскую ініцыятыву!* (іс)

паэт не ўцякае ад складаных і да канца не высненых праблем. Адносіны чалавека да сусвету, таемнасць чалавечага лёсу, бяссільнасць чалавека ў барацьбе з няшчасцямі, загадкавасць будучыні — усё гэта непакоіла складаныя чалавечыя натуры. Толькі людзі ўпрошчаныя, прафаны, ігнаранты могуць сказаць — мы ведаем ўсё. Гаруну часамі здавалася, што нешта ведае, іншым разам быў пераканаены, што не ведае нічога. Шчыра прызнаваўся да гэтага. Адсюль і выплывалі непаслядоўнасці...

Дваістасць характару Гаруна трапна ахарактарызаваў М. Піотуховіч.

„Творчасць Алеся Гаруна вызначаецца... досыць шырокім сваім размахам. У гэтай творчасці мы знаходзім і рэвалюцыйны патос, і пяшчотныя мелёдыі кахання; рацыяналістычны скептыцызм злучаецца ў ёй з некаторымі налётамі хваравітай містыкі. Здаровая сэрцавіна паэзіі Гаруна пад уплывам цяжкай царскай рэакцыі, адарванасці пісьменніка ад грамадскага жыцця і працоўных мас пакрылася нарэшце хваравітай карой. Пясняр становіцца перад намі не толькі ў постаці барацьбіта, але смутнай постаці Гамлета з яго рэфлексіяй і цяжкім задуменнем". (М. Піотуховіч, нарысы Гісторыі Беларускай Літаратуры, Мінск 1928, с. 180).

# І Ў БЕЛАСТОКУ КОНЕЙ КУЮЦЬ...



*Каваль Люцыян Камінскі падкоўвае каня Антона Гузоўскага, які жыве ў Беластоку па вул. Высоцкага.*

Гэта таксама Беласток. Дакладна: скрыжаванне вуліц Новаваршаўскай і Савецкай Арміі, у рухлівым баку горада. Кузня існуе на гэтым месцы больш 50 гадоў. У час нашага візіта перад ёю рух, як у таргowы дзень. Фурманкі „на гумах" устаўляюцца ў чарзе, сяляне з розных канцоў Беластока прыязджаюць сюды рамантаваць усялякія сельскагаспадарчыя машыны ды каваць коней. Раз-пораз заходзяць у кузню не толькі кліенты з пугамі ў руках, але і шафёры, і вадзіцелі грузапад'ёмных машын. І каваль для ўсіх аднолькава, у кароткі тэрмін выконвае заказы.

— А сезон акурат пачаўся, бо на галалёдзіцу неабходна коням замацоўваць спецыяльныя падковы. Таму цяпер у мяне работы на шаснаццаць гадзін амаль кожны дзень, — гаворыць каваль Люцыян Камінскі.

Варта дадаць, што Люцыян Камінскі нясе працоўную вахту ля кавальскага горна ўжо шосты год, і заўсёды людзі хваляць яго залатыя рукі.

— За што ні возьмецца, зробіць хутка, добраякасна — гавораць яны.

Раней, ад 1923 года кузню вёў яго бацька — Пётр Камінскі. Дык значыць, у сям'і Камінскіх кавальства гэта ўжо сямейная традыцыя. З той аднак розніцай, што сын вывучыў у дасканаласці не толькі кавальскую справу, але і газаэлектразварку.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**




ФОТА ПА ЗАКАЗУ

Заказвалі дзяўчаты з Парцава

## ВЕР-НЕ-ВЕР БУК

Сёння вы зможаце прачытаць, што гаворыць галійскі гараскоп пра людзей, якія нарадзіліся 21-22 снежня. Адпавядае ім дрэва **бук.**

Чалавек гэты мае прыемную, шчуплую постаць. Часта дажывае да вельмі старых год, захоўваючы ўсе станоўчыя свае рысы. Ён доўгі час захоўвае маладую постаць, зручны і гібкі ў сваіх рухах. Заўсёды дбае пра сябе і хоча падабацца.

Калі бук трапіць на спрыяльныя ўмовы, дык удаецца яму атрымліваць добрыя вынікі працы ў кожнай галіне: ідэй і новых думак яму не бракуе. Робіць розныя праекты (і гэта не толькі мары, а праекты канкрэтныя) і ўмее іх рэалізаваць. Умее добра арганізаваць сабе жыццё.

Часамі здараюцца ў яго атакі шчодрасці, але наогул не бывае бескарысны: вельмі добра ўмее арганізаваць свой бюджэт. Не надта любіць дзяліцца сваёй уласнасцю, але гэта не перашкаджае гаварыць яму аб сабе, што належыць ён да добрых людзей. Сваю працу ён вельмі шануе: ашчадны! Гэта чалавек чэсны, мае шмат добрых рыс, усе за і супраць заўсёды старанна выважвае, нічога не пакідае на волю лёсу і выпадку.

У каханні не хапае яму фантазіі. Але бывае вельмі добрым мужам ці жонкай. Хоча мець дзяцей, узорны дом, хацеў бы прыемна праводзіць водпуск.

Будучы ўжо сталым чалавекам, ён можа пераҗыць адну-дзве прыгоды. Яму тады хочацца даказаць сабе і іншым, што ён яшчэ малады, цікавы і жыццерадасны.

Бук бывае інтэлігентны, яму не чужы здаровы рассудак. Але ён матэрыяліст. Перш за ўсё хоча быць багаты, а толькі пасля, калі гэта магчыма, — шчаслівы.

**Астрон**

## Куток практычных ведаў




## КУПАЦЦА!

Як здань, устае перад намі штовечар амаль раўназначнае з шэкспіраўскім „быць або не быць“ пытанне: купацца ці не купацца?! І трэба сказаць, што калі хто хоча сапраўды адчуваць сябе бадзёра і быць здаровым, напэўна знойдзе спосаб на тое, каб выкупацца дакладна пасля цяжкай работы, ды нават тады, калі не жыве ў блоку ці сучаснай вілле з ваннай і душам.

Хочучы, можна старанна памыцца кожны вечар нават у звычайнай місцы. Зразумела, ніпто не заменіць нам сваёй ванны, у якой — хлюпайся колькі хочаш! Але ні ў якім выпадку нельга апраўдвацца яе недахопам: маўляў, ванны няма, дык штодзённае дакладнае мыццё сустракаецца з такімі бар'ерамі, што можна сабе на яго дазволіць толькі раз у тыдзень бліжэй нядзелі.

А як жа ж можна легчы спаць, не памыўшыся добра? Штодзённае мыццё, як кажуць, ад галавы да ног — пад душам, у ванне, ці ў пластмасавай вялікай ванне — гэта прыемны абавязак, які павінен стаць прывычкай.

Купаемся, перш за ўсё з той мэтай, каб быць чыстым. Аперацыя гэта, так сказаць, гігіенічная. Але можа яна выконваць таксама і іншую ролю.

Напрыклад, добра ўплывае купанне пры себарэі (лаятоку) ў вадзе з адварам зёлкаў. Бярэм ліпавы цвет, чабор, рамонку, зверабой — разам 150 г. — і кіпяцім усё гэта ў 2 літрах вады. Як закіпіць — трымаць на гарачай пліце ці маленькім газе яшчэ паўгадзіны, а пасля трэба працадзіць праз палатно ў ванну.

Добра было б выкупацца змучанаму чалавеку. Адразу палепшыцца ў яго настрой. Вада не павінна быць гарачэйшая 37°С, трэба дадаць да яе 1-2 сасновыя шышкі (у залежнасці ад велічыні посуду, у якім будзеце мыцца), купацца хутка, а пасля зрабіць масаж цела шчоткай ці спецыяльнай шурпатай рукавіцай для купання. Спаласнуцца халоднай вадой.

І ад прастуды ванна памагае. Калі вам холадна і вы адчуваеце, што вось-вось паявіцца насмарк, зрабіце сабе цёплую ванну, дадаючы 2 сасновыя галкі і 10 кропель эўкаліптавага масла. Глыбока дыхайце. Выкупаўшыся, вы павінны старанна выцерціся махровым ручніком, апрануць фланелевую піжаму, ды таблетку аспірыну запіць шклянкай гарачага чаю.

**Эскулап**




Дарагое „Сэрцайка“! Пішу да цябе пісьмо і спадзяюся, што ты мне параіш у маім цяжкім становішчы. Жыву я ў горадзе, мне 26 гадоў. Як была маладзейшая, хлопцаў было нямала, але нейк замуж выйсці не ўдалося. А цяпер баюся, каб у старых дзеўках не застацца. Пакахала я Мірка. Не з-за прыгажосці, але з-за характару. Спакойны, ветлівы. Падумала я, з такім у жыцці нядрэнна будзе. Прызнаюся, што і іншыя хлопцы былі, Мірэк нават і прыкмеціў гэта, мы пасправаліся, ён пагневаўся і нейкі час не прыходзіў. Але ўсё наладзілася. І тады я зацяжарыла. Я не прызналася. Прайшло два месяцы, і, думаю, няма чаго таіць, скажу. І што? Мірэк увогуле больш да мяне не прыйшоў. Чакала, выглядала, урэшце пайшла да яго на работу. Расплакалася, прасіла, каб узялі мы шлюб, а ён і слухаць не хоча. Кажа: дзіця не маё, не адзін я да цябе хадзіў. Прыехала мама і мы разам з ёй пайшлі да яго на кватэру, але ён і гаварыць з намі не захацеў. „Сэрцайка“, як вярнуць мне яго?

**Ірэна з Б.**

Які ж спосаб табе падказаць, калі практычна на хлопца, калі ён сам вярнуцца не захоча, спосабу няма. А ты і сама не ў парадку. Не маладзенькая, замуж выйсці хацела, хлопца адпаведнага знайшла, дык трэба ўжо было яго трымацца. Можа, каб з іншымі не круціла, дык і ён бы інакш сябе паводзіў... А так, бадай самой дзіця выхоўваць прыдзецца...

**„Сэрцайка“**

## Ці ведаеце, што...

...ваяводская арганізацыя ЗСЛ на Беласточчыне налічвае 7613 членаў, у тым ліку 5030 сялян;

...у Беластоцкім ваяводстве найбольшая арганізацыя ЗСЛ дзейнічае ў самым Беластоку. Налічвае яна 687 членаў;

...пасля рэформы дзяржаўнай адміністрацыі Беластоцкае ваяводства займае плошчу ў 1 005 276 гектараў, пражывае ў ім 622 тысячы асоб, у тым ліку на вёсцы жыве 320 тысяч асоб. (ця)

## § Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Спадчына складаецца з сельскай гаспадаркі і пляца, які знаходзіцца ў горадзе і не належыць да сельскай гаспадаркі. З трох наследнікаў двое пражываюць у горадзе і не займаюцца сельскай гаспадаркай. Трэці працуе на спадчыннай гаспадарцы. Павятовыя ўлады перадалі яму акт уласнасці на гаспадарку. Ці пры падзеле спадчыны сельская гаспадарка будзе ўлічана ў састаў спадчыннай маёмасці і ці той, хто атрымаў на яе акт уласнасці, мае права да гарадскога пляца?

АДКАЗ: У прынцыпе — той, хто атрымаў сельскую гаспадарку, не траціць права на нерухомую маёмасць, якая знаходзіцца ў горадзе. Аднак пры падзеле спадчыны залічваецца на яго ўдзел вартасць гаспадаркі, якую ён атрымаў. Напрыклад: сельская гаспадарка варта 80 тысяч зл. а гарадскі пляц 100 тысяч зл. Пры трох наследніках удзел кожнага з іх састаўляе 180 тысяч, падзеленыя на тры, г.зн. 60 тысяч зл. Той, хто атрымаў сельскую гаспадарку, атрымаў больш, чым яго ўдзел. Паколькі астатнія наследнікі як жыхары горада не маюць права да сельскай гаспадаркі, яны даплат не атрымаюць. Яны не абавязаны таксама даплачваць таму, хто атрымаў сельскую гаспадарку. Сітуацыя не зменіцца ад таго, што ён атрымаў акт уласнасці ад павятовай рады нарадонай. Значыць, у нашым прыкладзе да спадчыны залічацца і сельская гаспадарка і пляц, а практычна пляц будзе прыдзелены наследнікам у горадзе.




— Ось халера, прымерзлі, ці што! — казаў Блішчынскі. — А ну, фрыц, аддавай. Памажы, Цімошкін.

Цімошкін прыпыніўся зводдаль і плюнуў у снег.

— І не брыдка табе? — сказаў ён, назіраючы, як Блішчынскі соп і ўсё тузаў нагу, а труп валокся, усё болей загортваючы шынель. Каб было зручней, Грышка ўпёрся ў яго ботам.

— А чаму брыдка? Ногі марозіць горш. Ось як.

Урэшце ён здзёр валёнак, прысеў на скрынку, зняў свае кірзавыя боты і спрытна пераабуўся. Валёнкі сапраўды былі добрыя — з абшытымі скурай наскамі і скуранымі падэшвамі. Блішчынскі прытупнуў імі і штурхнуў локцем аўтамат.

— Валёначкі першы сорт. Дзякуй немцу, цяпер ногі як у печцы будуць. Разумееш?

На дарозе нікога не было, хлопцы перайшлі яе і зноў скіравалі ўздоўж вала. Блішчынскі, як заўсёды, трымаў сябе ўпэўнена, нешта пажаваў з паперкі, пасля спыніўся, выняў з-за пазухі нямецкую, абшытую лямцам, біклагу і адвінціў корак.

— Бачыш? Ром. Мабыць, французскі, — ён коратка хіхікнуў. — Ін віна вэрытас. Разумееш? Ды дзе табе разумець. Праўда ў віне. Запомні.

Пасля, задраўшы галаў, ён трохі пабулькаў, выцер далонню вусны і, не закрываючы пляшкі, спытаў:

— Табе даць? От добра! Селязёнка пацяплела. На, глыні. Толькі нямнога.

Цімошкін нерашуча ўзяў, азірнуўся і, паднёсшы да вуснаў марознае рыльца, глынуў разы два. Ніякай асалоды ён не адчуў, але пахучая вадкасць сапраўды жарам разлілася ў грудзях, адразу стала цяплей. Хлопец аддаў пляшку і, адчуваючы, як паток нейкага новага, нязвыклага пачуцця напаўняе яго істоту, ішоў побач. І тут яму раптам стала вельмі самотна, вельмі прыкра, што побач у такой бядзе зусім не той чалавек, якога б хацелася. „Эх Ваня, Ваня!“ — прашаптаў хлопец, усё азіраючыся, але ззаду над бялявым долам вісела змрочная зімовая ноч.

Блішчынскі шырока сігаў, Цімошкіну было цяжкавата ўгнацца за ім, але ён, як мог, намагаўся не адстаць. Размаўляць у яго не было ніякай ахвоты, два гарачыя глыткі неяк зусім засамоцілі хлопца.

— Чаго ты такі кіслы? Га? — пытаўся Блішчынскі. — Што, сябрук прапаў? Плюнь ты, які можа быць сябра на вайне? На дзень-два. Пасля ўсё роўна — разлука, разумееш? Хто ў Магілёўскую губерню, хто ў шпіталь. Разумееш?

Цімошкін маўчаў, ён ведаў, што Блішчынскі не зразумее яго турбот, ды хлопцу гэта і не трэба было.

— А наогул, ты ёлупень. Чаму б табе каля мяне не трымацца? Я б цябе не даў скрыўдзіць. І памог бы. Што, думаеш, сілы мала? Думаеш, нейкі там пісар! Ха, мала ты ведаеш. Разумееш? У мяне ўлады не меней, чым у маёра Андрэева. Нядаўна ў артмайстэрні ездавы выбыў. Шапнуў бы Борку Паўловічу са страявой часці, ураз бы перапісаў цябе, і канцы ў ваду... Нябось, не валокся б цяпер чорт ведае дзе. Разумееш?

Цімошкін непрыязна агрызнуўся:

— Чаму ж ты валачэшся, такі разумны?

— Я? То выпадак. Разумееш! Што я, дурны, ці што? Думаеш, я для якога медаля на дурасць пайду? Дудкі. Пляваў я на медаль і на дурняў. Маё жыццё даражэй за медалі. І каб не выпадак, я б цяпер да-а-лёка быў. Ужо б немцам не даўся б. Разумееш?

— Што ж цябе ўтрымала?

— Што, што... Грыцэнку — ардынарца Андрэева — пазаўчора падстрэлілі. Разумееш? І трэба ж яму было падлезці пад тую кулю. Дык маёр Андрэеў уранку кажа: пойдзем, праветрышся, а то ты тут дымам прасмярдзеў. Ну што ж, думаю, пайду. Можа за паўдня якога ліха не здарыцца. Пайшлі ў трэці батальён, і вось табе на — якраз прарыў. Маёру дзве кулі ў жывот — сканаў, яму і клопату мала. А я вось уліп. Ось так. Разумееш?

Ён відавочна хмялеў. Рухі яго сталі рэзкія, левая рука шырока адмахвала ў такт крокаў. Пільнасці ён, аднак, не траціў і, гамонячы, кідаў хуткія, кароткія позіркі ў бакі. Здаецца, землякова маўклівасць заахвочвала яго спавядацца, і пэўна таму, што тут не было сведак і становішча іх заставалася няпэўным, ён, як гэта бывае пасля доўгай зацятасці, перастаў таіць свае думкі.

— Мы з табой, Цімошкін, землякі, брат, і разумеем адзін аднаго. Праўда, там некалі не дужа ладна жылі. Але глупства, — вядома, пацаны былі. А цяпер? Трэба ж цвяроза глядзець на ўсё. Ты не думай, што я сержант, дык мала што разумею. Хе, не, брат. Думаць трэба. Гэта і дурань зможа. Але шцірб цур рэхтэн цайт*, як пісаў Ніцшэ. А стары не дурны быў. Вось. Мы маладыя, нам трэба на вайне выжыць, і выжыць з толкам. Разумееш? У тым уся соль.

Агідны чалавек. Ён быў варты таго, каб даць яму ў морду, думаў Цімошкін, але, сашчапіўшы зубы, трываў і слухаў. Яму хацелася зведаць земляка да канца, бо, адчуваў хлопец, недзе ў ім закладзена гэтая адгадка яго натуры, яна сёння свярбіць у яго, і Блішчынскі штосьці выкажа.

